Цана 15 гр.

Przesyłka opłacona ryczałtem

# БЕЛАРУСКІ ФРОНТ

НЕЗАЛЕЖНЫ НАРОДНА-РАДЫКАЛЬНЫ ЧАСАПІС

РЭДАКЦЫЯ і АДМІНІСТРАЦЫЯ: Вільня, Вострабрамская 2—11 (Wilno, Ostrobramska 2—11). Адчынена ад 9 да 19 г.

Часапіс выходзіць раз у месяц

Выпіска: на год 2 зал. на паўг. 1 зал. на 3 м-цы 50 гр.

№ 1 (10) Вільня, 5-га студня 1937 г. Год II.

## Патрэба новай грамадзка-палітычнай арганізацыі

Закладаючы „Бел. Фронт“ мы мелі на ўвазе змаганьне з рознымі чужацкімі фронтамі, якія раз'ядаюць наш народ. Проціўдзеючы гэным фронтам, мы заклікалі ўсё незалежніцкае беларускае грамадзянства да стварэньня свайго **беларускага** фронту, вольнага ад уплываў чужых і варожых нам сілаў і іх агентураў. У першым нумары нашай газэты мы паставілі сабе галоўную мэту: вырабляць і паддзержываць незалежніцкую лінію пасярод беларускага народу і гуртаваць каля сябе тых беларусаў, якія дзяржацца гэтай лініі...

Мэту гэтую мы паводле магчымасьці споўнілі: мы выясьнілі шкоднасьць чужацкіх ар'ентацыяў — і ўсходніх і заходніх; далі агляд беларускага палітычнага жыцьця ў мінуўшчыне і сучаснасьці; крытычна прагледзелі ўсе фактычныя і магчымыя беларускія ар'ентацыі, а так-жа згуртавалі каля сябе прыхільнікаў незалежнай беларускай думкі. А цяпер перад намі стаіць пытаньне, ці нам далей ісьці гэтым шляхам г. зн. гуртаваць каля сябе сваіх аднадумцаў бяз ніякіх арганізаваных форм, ці прыступіць да арганізаваньня новай грамадзка-палітычнай групы (партыі)? Пасьля ўсебаковага разгляду і абсуджэньня сучаснага беларускага жыцьця, мы прышлі да перакананьня, што выявілася патрэба стварыць новую палітычную групу, якая-б моцна дзяржала беларускі нацыянальны сьцяг, які ўжо некаторымі беларускімі дзеячамі адкідаецца.

Выдаючы паўгода таму назад першы нумар нашай газэты, мы пісалі, што ў будучыне пакажацца, ці наш кірунак вырьецца ў нейкія арганізаваныя формы, ці не. Вось-жа гэта будучыня паказала, што такія арганізаваныя формы патрэбны.

Але можа знойдуцца і такія, што скажуць, што і так ёсьць даволі ў беларускім руху партыяў легальных і нелегальных, дык нашто яшчэ адна партыя? На гэта адкажам, што ўсе існуючыя партыі не здавольваюць *усіх* беларусаў і ў беларускім палітычным жыцьці выяўляецца пустое месца, якое трэба запоўніць новай арганізацыяй.

Каб пераканацца ў гэтым, мы коратка разгледзім усе існуючыя беларускія палітычныя партыі. Праўду кажучы, ёсьць іх ня так многа, бо толькі чатыры: тры легальных — Бел. Нар. Аб'еднаньне, Бел. Нац-Сацыялісты і Бел. Сац. Рэвалюцыянэры — і адна нелегальная—КПЗБ. Пакідаючы ў старане апошнюю, мы разгледзім толькі тры першыя.

*Бел. Народн. Аб'еднаньне*, якое паўстала з Бел. Хр. Дэмакрацыі, апошнім часам перажывала крызыс. Гэта партыя, называючыся яшчэ БХД, высоўвала на першае месца, побач з нацыянальнымі і рэлігійныя клічы. Аднак пераканаўшыся, што рэлігійныя клічы ў беларускім народзе ня маюць належнага послуху, пашукала для сябе новай праграмы і новых дарог. Праграма гэтая, апроч стушаваньня рэлігійных мамэнтаў, болей улева не пайшла, а пад некаторым узглядам пайшла нават управа (зямля з дзяржаўным выкупам, што потым аднак было скасавана). Выбіўшыся з даўнейшай хадэцкай лініі, БНА ня ведала спачатку, чаго дзяржацца: папскіх энцыклік, саветызму (прынцыпу радаў) ці буржуазнага дэмократызму — і ў рэзультаце злучыла ўсе тры элемэнты разам. Але зараз пасьля апублікаваньня новай праграмы зьяўляюцца жаданьні паправак, асабліва ў справе зямельнай, што і было зроблена. Дык хістаньне ў праграме відавочнае.

Яшчэ большае хістаньне праяўляецца ў тактыцы. Ужо мы няраз пісалі, што БНА шукае новых дарог. Аб гэтым шуканьні гавораць усе... апроч толькі сяброў БНА, каторыя цьвярдзяць, што аб гэтым нічога ня ведаюць. З усяго відаць, што партыя згубіла пэўны і правільны шлях, а да такой партыі, якая ня мае яснага для ўсіх і ведамага шляху, ня усе могуць належаць.

Адносна двух другіх партыяў — бел. нац-сацыялістаў і бел. эсэраў—трэба сказаць тое, што з іх праграмай таксама ня ўсе гадзяцца. Кажуць, што эсэры слаўны сваей мінуўшчынай, а нац.сацыялісты сваей будучыняй. Усё магчыма—і мы з гэтым спрачацца ня будзем. Але факт астаецца фактам, што многія беларусы да гэтых партыяў маюць свае засьцярогі і мусіць дзеля гэтага, паміма ўсіх сымпатыяў да іх саматужнай працы, тыя партыі ня змаглі набраць большага разгону ў бел. грамадзянстве. Орган нац-сацыялістаў—„Новы Шлях“, і орган эсэраў — „Золак“ выходзяць вельмі рэдка.

З гэтага ўсяго вывад, што патрэбна новая група, новая палітычная партыя, і людзі, якія групуюцца каля нашага часапісу, пастанавілі такую партыю стварыць.

Якія-ж нашы галоўныя мэты?

*Першай* нашай мэтай ёсьць вялікі Ідэал незалежнасьці Беларусі. Пачынаючы выдаваць „Бел. Фронт“, мы пісалі, што „палітычнага і грамадзкага ладу ня маюць права накінуць нам ані фашысты, ані камуністы, а павінен яго стварыць сам Беларускі народ. Але гэта залежыць ад увядзеньня ў жыцьцё акту 25 сакавіка“. Дзеля гэтага мы адкідаем усе ар'ентацыі, якія ў цэласьці або ў частцы не вядуць да асягненьня гэтага найвышэйшага для кожнага народу Ідэалу. Тут сьцьвярджаем, што г. зв. Савецкая Беларусь ня мае ані сувэрэннасьці, ані незалежнасьці.

*Другой* нашай мэтай ёсьць падняцьце нашага сялянства на магчыма найвышэйшую ступеню грамадзкага і культурнага жыцьця, з тым, каб яно было сапраўды рэзэрвуарам жывых беларускіх сіл. Паводле нашага пагляду сялянства ёсьць асноўнай базай і ядром кожнага народу. *Няма сялянства — няма народу*. Разглядаючы гістарычнае жыцьцё і грамадзкі склад народаў, мы прыходзім да перакананьня, што ядром народу ня ёсьць ані мяшчанства, ані пролетарыят, ані нават інтэлігенцыя, а ядром ёсьць толькі сялянства. Яно перахоўвывае народную мову, народную творчасьць, звычаі і ўсе народныя вартасьці. Гэтакай ролі не спаўняюць іншыя клясы народу. Яны болей інтэрнацыянальны, падобны да лётнага пяску, які сягоньні тут, заўтры там. Сялянства-ж астаецца на месцы пры кожнай нагодзе і выдае з сябе мяшчанства, інтэлігэнцыю і пролетарыят.

*Трэцяй* нашай мэтай ёсьць пашана да працы. Усё адно якой працы: земляробскай, фабрычнай ці „інтэлігенцкай“. Уважаем, што *працай будуецца ўсё на сьвеце*, а ў тым ліку і Беларусь. Чалавек не працоўны ў нашай партыі месца мець ня будзе.

Гэта ёсьць тры галоўныя, фундамантальныя пункты нашай праграмы. У будучыне будзем гэтыя пункты разьвіваць.

Адносна назову ёсьць праект такі: Беларуская Народна-Радыкальная Партыя (БНРП). Але справа назову будзе аканчальна вырашана на найбліжэйшай партыйнай канфэрэнцыі.

## З нагоды Новага Году.

Пачынаем другі год нашага выдавецтва. Мінулы 1936 г. быў надта бурлівы і прынёс вялікія зьмены ў сусьветным жыцьці народаў, ды і на нашым беларускім грунце быў багаты здарэньнямі.

У сусьветным маштабе год 1936 адзначыўся паўстаньнем новых палітычных комбінацыяў; паглыбленьнем падзелу між дзяржавамі г. зв. „фашыстаўскімі“, і камуністычным СССР з людовымі фронтамі, ды і значна наблізіў пагрозу сусьветнай вайны.

Зьявішчы нашага беларускага жыцьця ўкладаліся часткова пад уплывам гэтых агульных падзеяў, часткова самастойна. Як водгук сусьветнага падзелу на два лягэры: камуністычны і фашыстаўскі, мы наглядалі вясной м. г. спробы ўцягнуць беларускія масы ў г. зв. польскі людовы фронт. Гэты людовы фронт намагаліся правесьці ў нас г. зв. „дэмакратычныя і паступовыя“ элемэнты польскія і беларускія. Фронт гэткі быў-бы фактычна пад загадамі КПЗБ, залежнай ад польскай камуністычнай партыі і спаўняючай ейную волю. Як мы ўжо пісалі, кірунак гэты ў нашых умовах быў-бы нічым іншым, як новым палянафільствам, прыкрытым лістком манлівай паступовасьці, тады як дагэтуль было беларускае палянафільства „афіцыяльнае“. Інтарэсы гэтага польскага людовага фронту на беларускім грунце імкнулася рэпрэзэнтаваць „Наша Воля“, па спыненьні якой новы наступнік ужо не зьявіўся. Гэты польскі „людовы“ фронт хацеў уцягнуць беларускія масы да змаганьня за чужыя ідэі, адарваць іх ад сваіх нацыянальных і сацыяльных мэтаў, нічога, зразумела, гэтым масам ня даць, а затое вырваць з іх новыя ахвяры на чужы аўтар.

Спроба гэта аднак нічога не дала, польскі людовы фронт не прышчапіўся—і між беларускімі масамі надалей працуе толькі КПЗБ, кіраваная не беларусамі і падпарадкаваная польскай кам. партыі. Нясьведамасьць беларускіх масаў яшчэ дазваляе гэтай партыі ўцягваць у свой лагер пасобныя беларускія адзінкі, аднак і гэта зьявішча дачаснае, а з узростам нац.-сацыяльнае сьведамасьці беларускае масы—міне.

Няўдачу спробы ўцягнуць беларускія масы ў польскі людовы фронт мы адзначаем як зьявішча дадатняе.

Другім дадатнім праявам на нашым грунце за мінулы год ёсьць усё мацнеючая консолідацыя беларускага незалежнага грамадзянства. Спрычыняюцца да гэтага з аднаго боку штораз цяжэйшыя ўмовы нашага жыцьця, каторыя прымушаюць заўсёды кожнае грамадзянства да аб'яднаньня сваіх сілаў, а з другога — зразуменьне, што г. зв. арыентацыі, падтрымоўваныя чужымі, імкнуліся толькі сварыць беларускую інтэлігенцыю і падзяліць беларускую масу на варожыя групы, каб кінуўшы гэткім парадкам усіх на вайну з усімі, аканчальна зьнішчыць беларускі рух. Цікава адцеміць, што кожная гэткая арыентацыя імкнулася да непадзельнага панаваньня, і зьядала ня толькі іншую арыентацыю, але нават і кожны праяў беларускай незалежнай думкі. Гісторыя дасьледуе, якім парадкам гэтыя арыентацыі на працягу апошніх 15 гадоў давялі нашае жыцьцё да сучаснага стану, мы-ж тут адцемім, што растучая консалідацыя бел. незал. грамадзянства паложа *veto* далей-

# На беларускім грунце.

*(Агляд беларускага жыцьця).*

*„Дзень Беларускай Культуры“.*

Дня 13. XII. была наладжана ў салі літоўскай гімназіі Акадэмія ў чэсьць Дня Бел. Культуры. Акадэмію арганізаваў камітэт, зложаны з прадстаўнікоў БНА і людзей, якія гуртаваліся даўней каля ТБШ. Дзеля таго, што камітэт быў зложаны вельмі аднастаронна і няведама як, бяз удзелу шырэйшых кругоў бел. грамадзянства, некаторыя арганізацыі, як напр. Бел. Студэнцкі Саюз, адказаліся прыняць удзел у прэзыдыюме Акадэміі. Да прэзыдыяльнага стала былі камітэтам запрошаны М. Машара і П. Сяргіевіч, а ад студэнцтва — М. Канцэлярчык, хоць яго Б. Ст. Саюз не дэлегаваў. Гэтак утварыўся прэзыдыюм Акадэміі ў такім складзе: кс. А. Станкевіч, С. Паўловіч, Р. Шырма, М. Танк, М. Машара, А. Клімовіч, П. Сяргіевіч, Я. Пазьняк, Я. Шутовіч і М. Канцэлярчык.

Ужо на самым пачатку вельмі цяжкое ўражаньне зрабіла на прысутных адсутнасьць каля Пагоні беларускіх нацыянальных сьцягоў. Трэба тут адзначыць, што гэта была бадай першая бел. урачыстасьць на віл. грунце, на якой ня было бел-чырвона-белых сьцягоў. Пад знакам адсутнасьці бел. нац. сьцягоў і прайшла ўся Акадэмія.

Адчыніў Акадэмію інж. Клімовіч, перадаючы слова кс. Станкевічу, які сказаў уступнае слова аб культуры наагул і беларускай у асобнасьці. Прамова была бледная, без мацнейшых нацыянальных або інтэрнацыянальных мамэнтаў, відаць было, што прамоўца падходзіць да справы культуры кампрамісова, дык не патрапіў здаволіць ані адных ані другіх. Пасьля прамовы вітаў беларусаў ад імя ўкраінцаў прадстаўнік Укр. Парлямэнтарнай Рэпрэзэнтацыі пасол Сойму Троян, які ў гарачых славах выразіў нязьменнасьць добрых адносін між сабою ўкраінцаў і беларусаў, а так-жа спагаднасьць украінцаў да ўсіх дасягненьняў беларусаў, як культурных так і нацыянальных. Ад літоўцаў выступаў дырэктар віл. літ. гімназіі Шыкшніс, жадаючы бел. народу разьвіцьця яго культуры. На гэтым была закончана першая частка Акадэміі і наступіла другая—вакальная.

На другую часьць злажыліся выступленьні бел. хору пад кіраўніцтвам Р. Шырмы і сьпеў солё тэнара Міланскай і Пазнанскай опэры Міхала Забэйды-Суміцкага. Хор выканаў некалькі песьняў у музыкальнай апрацоўцы Грэчанінава, Галкоўскага, Анцава і інш. Адносна хору трэба сказаць, што тэхніка была добрая, працы ўложана многа, толькі неставала лепшых галасоў... У такі дзень хацелася-б відзець большае багацьце вокальных дараў у беларусаў! Адносна-ж музычнай кампазыцыі трэба пажадаць некаторым кампазытарам большага адчуцьця і зразуменьня духа беларускай песьні... У некаторых песьнях не адчувалася зусім беларускай мэлёдыйнасьці і рабілася ўражаньне, што гэта песьня чужая...

Затое зачараваў усіх саліст М. Забэйда-Суміцкі, беларус, родам з Косаўскага пав. Прапяяў ён некалькі народных бел. песьняў пры акампаніямэнце на фартэпіяне праф. Галкоўскага. Тут дык сапраўды адчулася хараство бел. песьні! Што значыць, калі да мастацтва народнага далучыцца мастацтва сапраўднага артыста! Добра было-б, каб М. Забэйда-Суміцкі часьцей прыяжджаў у Вільню! Трэба прызнаць, што ён сваім сьпевам ступаваў „палітычныя“ мамэнты арганізатараў Акадэміі.

Прысутных на Акадэміі было каля 500 асоб.

**Усім нашым чытачом і прыхільнікам**
**на Новы 1937 год**
**перасылаем гарачыя пажаданьні стойкасьці і вытрывальсьці ў беларускай працы.**

*Наш адказ „Бел. Крыніцы“.*

„Б. Крыніца“ ў адным з апошніх сваіх нумароў (з дн. 13. XII. 1936) зьмясьціла процiў нас артыкул пад заг. „Якая роля газэты „Беларускі Фронт“? У гэтым артыкуле „Б. Крыніца“, паводле свайго „хадэцкага“ звычаю, перакручваючы факты, дала нязгоднае з праўдай асьвятленьне некаторых падзей на беларускім грунце. На гэтую пісаніну мы і не адказвалі-б, каб „Б. Кр.“ выясьніла нашу сапраўдную ролю ў беларускім жыцьці, але яна гэтага не зрабіла. Нашу ролю яна прадставіла ў фальшывым асьвятленьні. Прыгэтым „Б. Кр.“ парушыла справы прынцыповага характару, на каторыя адказаць уважаем за рэч патрэбную, нават пасьля таго, як „Б. Кр.“ спынена адм. уладамі.

Прадусім „Б. Крыніцы“ не спадабалася, што мы закранулі ў цэлым радзе артыкулаў усе існуючыя бел. ар'ентацыі і крытычна іх разгледзелі. Мы ведалі, што „Б. Крыніцы“ гэныя артыкулы не спадабаюцца, але мы іх зьмяшчалі і з тэй прычыны, што „Б. Крыніца“, „Родны Край“, даўней „Наша Воля“ і іншая бел. залежная прэса аб гэтым ніколі ня пісала. Тымчасам бел. грамадзянства мае права а нават і абавязак ведаць, куды вядзе кожная газэта і кожная ар'ентацыя. Ар'ентацыя „Б. Крыніцы“ ведамая. А мы не дзяржымся ніякай ар'ентацыі і дзеля гэтага, будучы незалежнымі, можам крытыкаваць *усе* бяз вынятку палітычныя кірункі. Уважаем, што кожны чэсны беларус павінен прадусім ар'ентавацца на свой беларускі народ. Ніхто з чужынцаў яму не паможа дайсьці да поўнага зьдзейсьненьня ягоных найвышэйшых Ідэалаў, а калі і паможа, дык за помач зажадае дарагой заплаты. Трэба, каб беларускі народ зразумеў і запамятаў раз на заўсёды, што лепшую долю для сябе ён здабудзе толькі сваім крывавым мазалём. Кожны народ каторы выцягвае сваю руку з просьбай помачы, мусіць за гэтую помач заплаціць або сваей тэрыторыяй, або канцэсіямі. Прыкладаў далёка шукаць ня трэба. Аб гэтым „Б. Крыніца“ пашаму народу не гаварыла, а наадварот, разьвівала ў народзе пракананьне, што толькі ар'ентацыя на чужыя сілы прыносіць карысьць.. Дзеля гэтага ўважаем, што нашы артыкулы аб ар'ентацыях карысны ня толькі для беларускіх мас, але і для рэдактароў „Бел. Крыніцы“.

Далей „Б. Кр.“ паўтарае яшчэ раз хлусьню, што ў рэдакцыі „Б. Фронту“ рэвізіі ня было. На гэту хлусьню мы адказалі ў прошлым нумары нашай газэты і тут паўтарацца ня будзем. Скажам толькі, што гэтае бязупыннае крычаньне „Б. Кр.“ аб тым, што імення ў яе была рэвізія, выглядае для нас падазроным. Ці не здабывала „Б. Кр.“ гэтым заслуг для сябе? А калі здабывала, то перад кім? Адносна нас, дык скажам адкрыта, што мы такой прыемнасьці, як рэвізія, не хацелі і ня хочам (яшчэ дагэтуль, паміма стараньняў, нам не аддалі ані адрасоў, ані карэспандэнцыі), а тут раптам „Бел. Крыніца“ гэтак пачала пышніцца тым і крычаць, што, бачыце, ў яе была рэвізія, а ў іншых ня было! Нейкая мэта ў гэтым ёсьць, тымболей што інфармацыі „Б. Кр.“ нязгодны з праўдай. Чаму ўрэшце „Бел. Крыніца“, падаючы з вялікаю хвальбою прозьвішчы бадай усіх асоб, у каторых была рэвізія, памінула такіх асоб, як кс. В. Гадлеўскі, старшыня БІГ і К, Ул. Казлоўскі, рэдактар „Новага Шляху“ і іншых? Ці толькі дзеля „бесстароньняга“ інфармаваньня сваіх чытачоў? Добрая бесстароннасьць! У сьляды гэтай „бесстароннасьці“ апошнім часам пайшоў і „Шлях Моладзі“.

Уканцы „Б. Кр.“ цьвярдзіць, што сход Рады БІГ і К дн. 15.XI. м. г. сапраўды не адбыўся. А мы спытаемся, які гэта сход адчыніў у той дзень у прысутнасьці болей 20-ці асоб старшыня Інстытуту кс. В. Гадлеўскі і зачыніў пасьля

шай дзейнасьці ў гэтым кірунку.

Паказаныя праявы, як дадатнія, варожаць памысна на будучыню. Хацелася-б спыніцца і над ад'ёмнымі фактамі, што спаткалі беларускае грамадзянства ў мінулым годзе, аднак надта даўгі і сумны быў-бы іхні рэестр, ды і мы лічым за лепшае не бедаваць над нядоляй, а падлічыўшы сілы, сьмела ісьці наперад, змагацца з новымі перашкодамі аж да мэты.

Што трэба, аднак, паставіць як бліжэйшыя задачы ў нашых сучасных абставінах?

Як палітыкаў, нас зусім здаволіць агульны адказ, які напрашываецца сам сабой — гэта праца над падняцьцем нацыянальнай і сацыяльнай сьведамасьці беларускага народу, узгадоўваючы ў ім незалежніцкую ідэолёгію. Аднак у зьдзейсьненьні яе надта важнае значэньне будуць мець практычна вядучыя да гэтага спосабы. І тут ужо незалежнік—палітык павінен зрабіцца перш за ўсё беларускім культурнікам і эканамістам і працаваць над падняцьцем асьветы бел. масаў і змагацца за лепшы ровень іх эканамічнага жыцьця. Бяз гэтых двух фактараў падняцьце нац.-сацыяльнай сьведамасьці на належную вышыню немагчыма. Працы канкрэтнай у галіне бел. культурнага і эканамічнага жыцьця заўсёды баяліся чорныя сотні ўсіх масьцяў ды камуністы і ўсялякімі спосабамі імкнуліся гэтаму пашкодзіць. Беларускую інтэлігенцыю, каторая падходзіла да гэтых пытаньняў канкрэтна, камуністы напр. прыраўнівалі да польскіх „станчыкаў“ і высьмейвалі гэтую працу „ад асноў“. Зразумела чаму — камуністам ідзе толькі аб падтрымоўваньне бязупыннай „вульканізацыі“ белар. масаў, але не канкрэтныя здабыткі для тых-жа. Ось-жа гэтых усіх закідаў беларускага грамадзянства баяцца не павінна і з другога боку не павінны яго такжа палохаць гэткія факты, як спыненьне дзейнасьці бел. культурных установаў. Трэба датасавацца да новых магчымасьцяў працы і весьці яе далей. Належны-ж яе ўздойм вымагае выкарыстаньня ўсіх гатовых да працы бел. незалежных сілаў у гарадох і на вёсцы і падрыхтоўка новых кадраў працаўнікоў. *М. Ш.*

# Мэты паэзіі.

У апошнім сшытку „Шляху Моладзі“ за сьнежань м. г. зьмешчаны верш М. Танка „Пісьмо ад Апалона“, у каторым аўтар парушае прынцыповае пытаньне — аб заданьнях беларускае паэзіі.

Спыняючыся коратка тут над гэтым важным пытаньнем, перш за ўсё трэба адцеміць, што Апалон Танка нейкі асаблівы і прыпамінае хутчэй звычайнага мясьніка, каторы „патрашыць трыбухі“, дарэзвае недарэзаных авечак, чымся грэцкага бога паэтаў. Гэтымі функцыямі, хоць і неабходнымі, грэцкі Апалон не займаўся і таму хочучы ад яго штось сказаць, неабходна трымацца адпаведнай формы, бо Апалон і ў гэтым сэнсе надта капрысны, а неадпаведная форма толькі пашкодзіць пераказчыку і адразу пакажа, што „пісьмо“ не праўдзівае, а сфальшаванае.

Пагляд на сутнасьць паэтыцкай творчасьці, выказаны Танкам, зразумела, ня мае ніякай арыгінальнасьці, а ёсьць толькі адбіцьцём адвечнае спрэчкі аб заданьнях паэзіі. У расейскай літэратуры напр., спрэчка гэта вялася ад часоў Пушкіна. Пушкін і яго наступнікі (расейскія клясыкі) ставілі паэзію надта высока. Яны дамагаліся поўнай свабоды ў паэтыцкай творчасьці і проціўставіліся ўсялякім спробам абмяжаваць гэтую свабоду і скіраваць паэзію ў нейкае карыта, падпарадкаванае чужой, часта зусім не паэтыцкай волі. Пушкін, у сваім ведамым вершы „Поэту“ кажа, што паэт сам сабе цар, найвышэйшы судзьдзя, ён павінен ісьці туды, куды яго цягне свабодны розум. Праціўнікі гэтага пагляду (цікава адзначыць, што гэта былі амаль выключна і прыхільнікі панаваўшага тады ў Расеі ладу) імкнуліся сарваць паэзію з гэтай вышыні і змусіць яе служыць тым ці іншым мэтам. Гогаль напр. казаў, што паэт павінен быць вучыцелем народу.

Справа гэта была пастаўлена асабліва востра, калі ў Расеі апанавалі ўладу камуністы. Паэзію яны цанілі агулам надта нізка і паэта зводзілі фактычна да ролі рамесьніка, катораму згары накідалася тэматыка, выйсьці за межы якой ён ня мог. Аказалася прыгэтым, што ГПУ — гэта найлепшы мэцэнат паэтаў і на паэзіі знаецца куды больш, чымся самі паэты. Зьявілася ў Саветах вялізарная літэратура „на заказ“, якой ніхто ня чытае. Хутка ўжо 20 гадоў міне, як сучасная расейская паэзія разьвіваецца ў гэткіх „радасных“ умовах, а што-ж аказалася? Аказалася рэч запраўды неспадзяваная, паіменна, што найбольш любімым, найбольш чытаным расейскімі масамі паэтам ёсьць... Пушкін. Той Пушкін, каторы жыў і пісаў сто гадоў назад і пагляд каторага на сутнасьць паэзіі ёсьць дыямэтральна проціележны пагляду камуністаў. Ды і апошнія зусім перасталі з ім ваяваць і рыхтуюцца да калясальнага абходу ў 1937 годзе 100-тых ўгодкаў яго сьмерці. Усе-ж Дзямьяны Бедныя фактычна ўжо перажылі самых сябе, а Пушкін аказаўся „валадарам думак“ нават пралетарскіх масаў у „сацыялістычным раю“, Пушкін, каторы свой верш „Поэту“ начынае:

„Поэтъ, не дорожи любовію
народной“.

Чым аб'ясняецца гэта зьявішча?

Побач з вялікай мастацкай вартасьцю твораў Пушкіна бязумоўна і тым, што ў Пушкіна чытачы бачаць запраўднага паэта, а не рамесьніка; у творах яго — запраўдную паэзію, а ня вымучаную і „заказную“; у шырыні яго паэтыцкага размаху – вольнага чалавека, а не нявольніка, на якога нават паны спазіраюць пагардліва.

Нам здаецца, што для беларускага запраўднага паэта выбар між гэтымі двама шляхамі ёсьць ясны.

Сяньня выказаны Танкам пагляд на паэзію ёсьць перастарэлы нават і ў савецкіх умовах. Калі прасачыць творчасьць выдатных савецкіх паэтаў, дык трэба сьцьвердзіць, што і яны надта часта ламаюць агульную „лінію“. Розныхжа „паэтыцкіх пісем“ розных „народаў“ адрасаваных „жыцьцядайнай крыніцы ўсяго чалавецтва“ ці „рэк поўнаводных імклівай сіле“ (г. ё. Сталіну) хіба і Танк ня меў на ўвазе, кажучы аб паэзіі. *Ш.*

доўгай дыскусіі? На якім гэта сходзе гр. Пазьняк адчытаў дэклярацыю ад імя рэвізыйнай камісіі аб неактуальнасьці справы сьвяткаваньня юбілеяй БІГ і К і ТБШ? На якім гэта сходзе кс. Станкевіч выставіў сваю кандыдатуру на старшыню і ня быў выбраны? „Бел. Крыніца” піша, што сход Рады быў склікаsuccessfully дзеля разгляду скаргі на старшыню БІГ і К, але ня піша якая гэта была скарга і які быў яе рэзультат? Вось-жа скарга была пададзена ў рэвізыйную камісію БІГ і К інж. Клімовічам, што кс. Гадлеўскі супраціўляецца з палітычных матываў злучэньню БІГ і К і ТБШ у супольным сьвяткаваньні іхных юбілеяў... А рэзультат скаргі быў такі, што Рада БІГ і К выбрала кс. Г. на старшыню сходу і гэтым выразіла давер да ягонай дзейнасьці. Усім ведама, што супольнага, маніфэстацыйнага сьвяткаваньня дамагаліся людзі, якія стаялі каля „Б. Кр.“ і ў гэтай справе зажадалі нават склікаиьня Рады Інстытуту... Ці іх палітыка была карыснай для Інстытуту, пакажа будучыня.

*Спыненьне „Б. Крыніцы“.*

Пастановай Акружн. Суду спынена „Б. Крыніца“, орган спачатку Б. Хр. Дэмакрацыі (ад 1917 па 1935 г.), а апошнім часам орган Бел. Нар. Аб‘еднаньня. У камунікаце аб спыненьні (завешаньні) „Б. Кр.“, зьмешчаным у польскай прэсе, было сказана, што „Б. Кр.“ была органам і Б. Інстытуту Г і К. Вось жа мусім сьцьвердзіць, што „Б. Кр.” органам Інстытуту ніколі ня была, а зьмяшчала весткі з жыцьця БІГ і К, як і іншыя бел. газэты. Сапраўдныя прычыны спыненьня няведамы.

*Рэвізія ў рэдактара „Б. Фронту“ і акт абвінавачаньня.*

Дня 24. XII. м. г. адбылася рэвізія ў рэд. В. Папуцэвіча, ў роднай вёсцы Мал. Альшанка, каля Горадні, куды ён выехаў на сьвяточныя вакацыі. Шукалі „bomb, broni i materiałow wybuchowych“, але не знайшлі нічога.

Гэтымі днямі рэд. Папуцэвіч атрымаў акт абвінавачаньня за артыкул „Залежнасьць ці незалежнасьць“ надрукаваны ў № 3 „Бел. Фронту“ і сканфіскаваны адм. уладамі. Вінавацяць рэд. П. з арт. 154 і 93 к. к.

*У справе спыненьня БІГ і К.*

У прошлым нумары „Б. Фр.“ мы падалі вестку аб спыненьні Інстытуту і аб матывах гэтага спыненьня, а цяпер хацелі-б напісаць пару слоў у абароне гэтай арганізацыі.

Калі БІГ і К выступіў разам з ТБШ з дамаганьнем роднай школы, дык гэта можа сьведчыць толькі аб зразуменьні патрэбы аб‘яднаньня дзейнасьці бел. культурных арганізацыяў у такой важнай справе як школьная акцыя, асабліва пасьля ведамай заявы Віленск. Школьн. Куратара. Школьная акцыя праводзілася зусім легальна на воку і пад кантроляй адм. уладаў, а г. зв. Школьны Сэкратарыят ня быў ніякай асобнай арганізацыяй, каторую трэба было-б рэестраваць. Ён не выдаваў ад свайго імя ніякіх адозваў і быў паклікаиы выключна дзеля спаўненьня тэхнічнай часткі школьнай акцыі, як дыжураваньне і прыйманьне карэспандэнцыі, высыланьне друкаў і г. д. Магчыма, што камуністы хацелі выкарыстаць школьную акцыю дзеля сваіх мэтаў, а магчыма, што яны проста хацелі сарваць яе... Мы яшчэ ў мін. годзе пісалі, што паводле чутак камуністы выпусьцілі лістоўку, што ўся школьная акцыя—гэта іх акцыя і дзеля гэтага загадываюць усім сябром КПЗБ прыняць у ёй самае дзейнае ўчасьце... Калі гэта было сапраўды так, дык камуністы згулялі паганую ролю: з аднаго боку яны выступілі, як абаронцы бел. народу, а з другога—сарвалі школьную акцыю і прычыніліся да зьліквідаваньня адным махам і БІГ і К і ТБШ! Гэтак робяць толькі правакатары. Але ў чым тут вінаваты БІГ і К? Ці яго можна вінаваціць за тое, што камуністы „прымазаліся“ да школьнай акцыі? Аб сапраўдных прычынах сёлетняй школьнай акцыі мы ўжо пісалі ў 2 н-ры „Б. Фр.“, тут яшчэ раз сьцьвярджаем, што камуністы ня былі яе пачынальнікамі. Ім аб дабро беларускага народу ня ідзе. З другога боку ведама ўсім, што БІГ і К быў заўсёды далёкі ад камунізму і яго інспірацыяў, дык уважаем спыненьне дзейнасьці БІГ і К зусім неабаснаваным. Трэба спадзявацца, што вышэйшыя ўлады, ўсебакова пазнаёміўшыся з справай і рэкурсам Інстытуту, пастанову Гарадзкога старасты ўхіляць. Справа спыненьня дзейнасьці бел. культурна-прасьветных арганізацыяў ужо парушана ў соймавых кругох. Там павінны вырашыць пытаньне, ці замест рэпрэсіяў ня лепш было-б даць беларусам беларускую школу?

*Арганізацыя бел. нац-сацыялістаў.*

З „Новага Шляху“ (№ 1 г. г.) даведваемся, што ў нац-сацыялістычным активе наступілі зьмены. Дагэтуляшні старшыня актыву Ф. Акінчыц зрокся дзеля хваробы абавязку старшыні, а на яго месца выбраны Ул. Казлоўскі. У гэтым-жа нумары зьмешчаны камунікат, што група Бел. Незалежных Радыкалаў, заложаная ў 1930 годзе, ліквідуецца праз уліцьцё яе ў партыю бел. нац.сацыялістаў, прыгэтым К. Юхневіч выбраны сэкратаром актыву партыі.

*„Беларускі Сялянскі Календар“.*

Календар гэты (кніжка), выданы кнігарняй „Пагоня“, празначаны для бел. сялянскіх мас і мае быць аполітычным. Аднак у канцы кніжкі бачым і палітыку, бо ў сьпісе бел. газэт не знаходзім сапраўды незалежных бел. часапісаў, як „Бэл. Фронт“, „Новы Шлях“ і „Золак“, ані іншых бел. паліт. арганізацыяў, апроч БНА. Уважаем, што ў імя бесстароннасьці ў календары павінны падавацца *ўсе* інфармацыі аб бел. жыцьці, і сымпатычныя для выдаўцоў і несымпатычныя, і залежныя і незалежныя...

*Справа касьцёла сьв. Ганны для беларусаў-каталікоў у Вільні.*

Два месяцы таму дэлегаты ад Бел. Каталіцкай Акцыі зьвярнуліся да арц. Ялбжыкоўскага з просьбай вызначыць адзін з касьцёлаў у Вільні для віленскіх беларусаў-каталікоў. Як ведама, віл. беларусы-каталікі карыстаюцца ўжо 15 гадоў з літоўскага касьцёла сьв. Мікалая, дзе літоўцы, па суседзкай спагаднасьці, уступілі беларусам час і месца для беларускіх набажэнстваў. Аднак такое супольнае карыстаньне мела і мае свае нявыгоды, а галоўна, што такое паложэньне зьяўляецца крыўдным для беларусаў, якія маюць поўнае права мець свой касьцёл, тымболей, што некаторыя касьцёлы ў Вільні пустуюць, як напр. касьцёл сьв. Ганны, у каторым бадай ніколі не адпраўляецца набажэнства. Вось-жа арц. Ялбжыкоўскі прырок даць гэты касьцёл беларусам, толькі загадаў зьвярнуцца да рэктара гэтага касьцёла кс. Пуцяты. Калі беларусы зьвярнуліся да кс. Пуцяты, той спачатку ня меў быццам нічога проціў, але пасьля некалькіх дзён заявіў, што ён гэтага зрабіць ня можа, бо баіцца вялікіх пратэстаў з боку часткі польскага грамадзянства проціў беларусаў... Тады дэлегаты Бел. Кат. Акцыі ізноў зьвярнуліся да арц. Ялбжыкоўскага з просьбаю, каб ён споўніў сваё абяцаньне. Але арцыбіскуп заявіў, што ён так-жа нічога ня можа зрабіць, бо з боку польскага грамадзянства ёсьць пратэсты, дый сьвецкая ўлада ў гэтай справе мае голас... Ўканцы арцыб. абяцаў зьвярнуцца да пробашча літоўскага касьцёла, каб ён уступіў болей гадзін для беларусаў...

Гэтак скончылася абяцанка даць беларусам касьцёл сьв. Ганны! А што датыча літоўцаў, дык тыя ніколі не рабілі ніякіх труднасьцяў для беларускіх набажэнстваў і заўсёды ў меру магчымасьці ішлі на спатканьне беларускім жаданьням і патрэбам.

*Памажэце бел. студэнцтву!*

Камітэт Месяца Беларускага Студэнта зварочваецца да ўсяго бел. грамадзянства з гарачай просьбай прыйсьці ў помач бел. студэнтам, якія часта цярпяць голад і холад. Няхай ня будзе ніводнай сьведамай бел. вёскі, аніводнага Беларуса, які-б не злажыў свой грош на галадаючых беларускіх студэнтаў!

Ахвяры слаць на адрас: Камітэт Месяца Бел. Студэнта, Вільня, Завальная 1, Уладзімер Клім.

## Памылковыя інфармацыі „Spraw Narodowościowych“.

Выдаваны ў Варшаве часапіс „Sprawy Narodowościowe“ ў нумары 3 м. г. прысьвяціў трохі ўвагі і беларускім справам, а ў тым ліку і „Бел. Фронту“. Чытаючы „Spr. Nar.“, мы павінны сьцьвердзіць, што ня ўсе іх інфармацыі аб‘ектыўны і згодны з праўдай. Відаць, што інфарматары часапісу адносяцца да сваіх абавязкаў лішне „паказённаму“ і дзеля гэтага даюць інфармацыі неправераныя, а нават памылковыя. І так, у вышэй-успомненым нумары мы знайшлі вестку, што Дубейкаўскі і Шкелёнак выступілі з Бел. Нар. Аб‘еднаньня. Вось-жа ў імя праўды сьцьвярджаем, што ані Л. Дубейкаўскі ані М. Шкелёнак, сябры нашай рэд. калегіі, ніколі не належалі да БНА і дзеля гэтага не маглі з яго выступаць. Таксама нязгодна з праўдай інфармацыя, што „Б. Фр.“ паўстаў *цалком* з прычыны раздваеньня ў БНА. На гэта заяўляем, што яго паклікалі да жыцьця прычыны, аб якіх мы пісалі ў 1 нумары „Б. Фр.“, і ён зложаны з людзей, якія за выняткам аднэй асобы, ня былі сябрамі БНА.

Гэта адна памылка „Spr. Nar.“ а другая — што БІГ і К, які быццам знаходзіўся пад апекай БНА, меўся злучыцца з ТБШ. На гэта адказваем, што ў Цэнтр. Урадзе БІГ і К сябры БНА ня мелі большасьці і дзеля гэтага не маглі правадзіць сваіх жаданьняў адносна злучэньня БІГ і К і ТБШ; прыгэтым адзначаем, што ініцыятыва злучэньня выйшла не з кругоў БНА, а з кругоў, збліжаных да польскага часапісу „Karta“, (аб чым мы пісалі ў н-ры 4 „Б. Фр.“), а сябры БНА хацелі злучыць БІГ і К і ТБШ толькі ў супольным сьвяткаваньні іхных юбілеяў... Чытачы „Б. Фр.“ маглі праканацца, сколькі было страчана энэргіі ў гэтай, здавалася, малаважнай справе, як супольнае ці аддзельнае сьвяткаваньне гэных юбілеяў... Каб яе вырашыць, трэба было аж склікаць Раду БІГ і К! Водгукі гэтай справы знайшлі сабе месца і ў гэтым нумары „Б. Фронту“.

Гэтак прадстаўляецца справа злучэньня БІГ і К і ТБШ. Дык адносна „Spr. Nar.“, хацелі-б выразіць пажаданьне, каб інфармацыі аб бел. жыцьці былі аб‘ектыўныя і згодныя з праўдай. Ад паважнага часапісу вымагаецца паважных інфармацыяў. Прыкладам гэтай непаважнасьці можа служыць так-жа інфармацыя ў справе Астроўскага, якога „Spr. Nar.“ хацелі спачатку „абяліць“, а ў гэтым нумару ўсёжтакі мусілі прызнаць, што ягоныя адносіны да студэнтаў з карпарацыі „Скарынія“ былі дэмаралізуючыя...

## З жыцьця і дзейнасьці Беларускага Студэнцкага Саюзу УСБ у Вільні.

Беларускі Студэнцкі Саюз, ад самага пачатку школьнага году, праяўляў дзейную культурна-адраджэнскую працу. Ня было суботы і нядзелі, каб ня было аднэй ці больш імпрэзаў, а нават у будзённыя дні ладзіліся рэфэраты і дыскусіі. Сьведчыць гэта, што студэнцкая моладзь ёсьць сьведамая свайго адказнага становішча перад цэлым Беларускім народам, як авангард лепшае будучыні. Гэтае моладзі ўсьцяж прыбывае ў рады БСС, растуць новыя сілы, якія з поўным энтузіязмам прыступаюць да цяжкай але і ўдзячнай беларускай працы. На месца здрадных адзінак, якія, як рэнэгаты і здраднікі, пакінулі рады беларускага авангарду і па сканчэньні навукі за юдавы срэбнікі пайшлі на „панскі хлеб“—растуць дзесяткі маладых барацьбітоў з мацнейшымі характарамі.

Праца і дзейнасьць БСС таксама прыняла сёлета болей правільны беларускі шлях. Усе рэфэраты і дыскусіі адбываюцца ў плошчы выключна нацыянальнай. Чужацкія ар‘ентацыі ўжо даўно ня маюць месца ў масе беларускага студэнцтва. За выняткам адзінак цэлая студэнцкая моладзь не ў чужацкіх сілах, а у *Беларускім народзе* бачыць магутную, потэнцыяльную сілу, якая ёсьць здольная да вялікіх прац і самаахвярнасьці на карысьць Бацькаўшчыны. Нацыянальны дух і ар‘ентацыя на свой Беларускі народ—вось прынцыповыя лёзунгі беларускага Студэнцтва ў працы і дзейнасьці БСС.

Гэтыя клічы і пажаданьні былі пастаўлены на першым інаўгурацыйным вечары БСС дня 17. X. м. г. у патрыётычнай прамове старшыні БСС студ. М. Шчорса, які заклікаў усю студэнцкую сям‘ю да самаахвярнае працы на карысьць Беларускага народу. З такімі-ж ідэямі выступаў на ўспомненым вечары і студ. П. Засім, які выказаў багацьце беларускага інтэлекту ў параўнаньні з іншымі народамі, але разам з гэтым і існаваньне ў Беларускім народзе нейкаго бязверра ў свае ўласныя сілы.

Хочучы пазнаць, як іншыя братнія народы ў гэткіх самых палітычных абставінах прыбліжаюцца да свайго народнага Ідэалу, БСС навязаў цесны кантакт з Украінскім Студэнцкім Саюзам у культурна-адраджэнскай працы. З нагоды гэнае лучнасьці адбываюцца ў БСС і Украінскім кружку інфармацыйныя рэфэраты і дыскусіі на тэмы жыцьця і дзейнасьці беларускага і ўкраінскага народаў. І так, дня 8. XI. м. г. студ. украінец Ул. Дэцык гаварыў у БСС аб сучасным жыцьці Украінскага народу, а студ. М. Шчорс 15. XI. у ўкраінцаў аб дамаганьні беларусамі свае школы. Трэ‘ прызнаць, што рэфэрат Ул. Дэцыка быў вельмі цікавы і карысны для нашага студэнцтва. Чуючы вялікі нацыянальны ўздым, вялікую згуртаваную працу Украінскага народу ў культурна-прасьветных, гаспадарчых і іншых арганізацыях, загаралася ў маладых сэрцах бел. студэнцкае моладзі ахвота да працы.

Нацыянальная думка прабіваецца і з далейшае працы БСС. У дыскусыйным вечары дня 10. XI, прысьвечаным тэме „людовага фронту“ і яго адносін да беларускае справы, усе амаль прамоўцы рашуча выказаліся проціў усякіх чужацкіх фронтаў, даказваючы іх шкоднасьць і провакацыю адносна беларускіх імкненьняў і беларускае вызвольнае думкі.

Дзеля скрысталізаваньня ім-

# На міжнародным грунце.

(*Агляд міжнароднай палітыкі за месяц сьнежань*).

*Вялікія манэўры дзяржаў.*

Мінулы 1936 год быў годам вялікіх палітычных манэўраў. На манэўры пайшлі перадусім *Саветы*, якія выдумалі новую тактыку: тварэньня „людовых“ фронтаў. Даўней камуністы ўважалі супрацоўніцтва з другімі партыямі, нават з сацыялістычнымі, за ганьбу для сябе, але захоўвалі чысьціню камуністычнай лініі. Сваю дзейнасьць яны апіралі даўней на камуністычных ячэйках, спадзяючыся пры іх помачы скамунізаваць увесь сьвет, але калі пабачылі, што кам. пераварот не надыходзіць, а процiў іх рыхтуецца фашыстоўскі блёк, пастанавілі супрацоўнічаць з ўсякімі, нават рэлігійнымі арганізацыямі, каб толькі ратаваць сваё палажэньне. І так, яны за граніцамі Сав. Саюзу шукаюць супрацоўніцтва з лібэраламі, дэмакратамі, масонамі і наагул з буржуазіяй, робяць блёк з духавенствам, ня гледзячы, ці гэта будзе ксёндз, поп, ці рабін; прапануюць усім партыям саюз у форме г. зв. „людовага“ фронту, ставячы толькі адзін варунак: змаганьне з фашызмам. Манэўры гэтыя далі добры рэзультат, бо ў двух дзяржавах „людовы“ фронт дайшоў да ўлады: ў Францыі і Гішпаніі. У Францыі пакуль што ціха, там толькі адбываюцца час ад часу страйкі работнікаў і выступленьні правіцы процiў ураду Блюма, а ў Гішпаніі мы ведаем, што робіцца. Урэшце аб гэтым будзем яшчэ пісаць.

Другой манэўруючай дзяржавай была *Італія*. Яна здабыла для сябе Абісынію, залажыла Рымскую імпэрыю, заключыла саюз з Нямеччынай, стварыла палітычную вось Рым—Бэрлін, пашырыла свае ўплывы на меншія дзяржавы, як Аўстрыя, Вэнгрыя, а нават Югаславія; ўзяла пад сваю апеку Балеарскія выспы, належачыя да Гішпаніі, а ў апошніх днях заключыла пакт з Англіяй, дзелячыся з гэтай дзяржавай уплывамі на Міжземным моры. Гэты пакт мае вялікае палітычнае значэньне. Тактыка Італіі палягае на тым, што яна заключае саюз з Нямеччынай, каб вытаргаваць нешта ад Англіі, з Англіяй, каб вытаргаваць ад Францыі і так манэўруе без канца.

Аб манэўрах *Нямеччыны* мы ўжо пісалі: яна будуе антыкамуністычны блёк, заключыла саюз з Японіяй, паставіла на парадак дня справу здабыцьця калёніяў, шукае прастору на Усходзе, чым напалохала Польшч і заставіла яе вярнуцца да цясьнейшага саюзу з Францыяй. Але галоўным манэўрам Ням. была помач для гішпанскіх паўстанцаў. Кажуць, што за гэта ўрад ген. Франко забавязаўся даць Ням. вялікія канцэсіі ў Марокко.

*Польшч* далей будуе бар'ер паміж Ням. і Саветамі, захоўваючы палажэньне ўвaружанай нэўтральнасьці. Палажэньне гэтае труднае, бо вымагае ўваружэньня і бязупыннай напружаннасьці. Пазыка, дадзеная Францыяй, пойдзе на гэтае ўваружэньне і, як падае віл. „Слово“, на правядзеньне стратэгічнай лініі пры ням. граніцы... Чаму Польшч збаялася Нямеччыны? Прычына гэтай баязьні ляжыць у ўсходніх плянах Ням. бо Польшч ня хоча дапусьціць да таго, каб Ням., здабываючы землі на Усходзе, акружыла яе... Саветы да апошніх часоў баяліся, што Польшч пойдзе рэалізаваць усходнія пляны Пілсудскага (стварэньне буфаровых дзяржаў — Украіны і Беларусі), можа нават разам з Нямеччынай; цяпер гэтая баязьнь адпадае... Польшч будуе ўваружаны бар'ер — і толькі. Праўда, бар'ер гэты ня поўны: ён толькі абымае паўдзённы кірунак (Румынію), але на поўначы да польскага бар'еру не належаць ані Літва, ані Латвія, ані Эстонія, не гаворачы ўжо аб Фінляндыі, якая была заўсёды пад уплывам Нямеччыны. Дык прыцягнуць на свой бок тры першыя дзяржавы ёсьць галоўным заданьнем польскай палітыкі. Не дарма польская прэса заклікае да згоды з Літвою! Трэба спадзявацца, што ў гэтым годзе будзем сьведкамі натугаў польскай дыплямацыі ў гэтым кірунку. Як бачым, Польшч пад патронатам Францыі і Англіі будуе *трэці блёк*, блёк нэўтральных дзяржаў паміж блёкамі камуністычным і фашыстоўскім.

*Англія* перажывала нутраны закалот з прычыны жаніцьбы свайго караля Адварда VIII, каторы ўлюбіўся ў амэрыканку Сімпсон. Гэта жанчына мае 41 год, была ўжо два разы разведзеная, абодва б. мужы яе жывуць у Лёндыне, другі муж, Сімпсон, з паходжаньня жыд (сама Сімпсон па бабцы мае жыдоўскую кроў), дык ўсё гэта выклікала вялікае нездаваленьне англ. кансэрватыўнага грамадзянства з свайго „паступовага“ караля. Усе партыі выказаліся процiў такой жаніцьбы і такой каралевы—і кароль, пасьля доўгага хістаньня, зрокся трону і выехаў у Аўстрыю, дзе пакуль што жыве ў ведамага банкіра Ротшыльда. Кажуць, што прычынай зрачэньня была ня толькі жаніцьба караля: Адвард VIII аказаўся няздольным і лянівым да дзяржаўнай працы дый быў у нязгодзе з кансэрватыўнай партыяй, якая цяпер правіць Англіяй.

У заграднічнай палітыцы Англія навязала цясьнейшы кантакт з Францыяй, Бэльгіяй і апошнім часам з Італіяй. У адносінах да гішпанскіх падзеяў дзяржыцца загадкова: раз памагае аднэй старане, раз другой.

Палітыку *Японіі* і ўсходніх спраў трэба абгаварыць асобна.

*Далёка-ўсходнія справы.*

Японія належыць да тых дзяржаў, якія душацца на сваей тэрыторыі. Бунт маладых афіцэраў у лютым м. г. быў дакананы пад клічам японскай тэрыторыяльнай і народнай экспансіі. Праціўнік вайсковай партыі кансэрватыўны міністар Такашы прасьцярагаў перад ваеннай авантурай, паказваючы на дрэнны стан японскіх фінансаў (10 мільярдаў енаў нутраной пазычкі пайшло на акупацыю Манджурыі), але яго забілі. Вайсковая партыя, пасьля здабыцьця Манджурыі і Нутраной Манголіі, імкнецца да здабыцьця поўночнага Кітаю і Вонкавай Манголіі, — якая знаходзіцца пад пратэктаратам Саветаў. Здабыўшы Паўночны Кітай і Вонк. Манголію, Японія аддзяліла-б Кітай ад Саветаў і тады магла-б узяцца за „арганізацыю“ Кітаю і здабыцьця Сібіру... Але гэта яшчэ далёкая песьня. Японія, не ўмацаваўшыся ў Манджурыі і Нутр. Манголіі і не „зарганізаваўшы“ Кітаю, ў вайну не палезе. Не пачнуць вайны і Саветы, бо таксама баяцца — і вось два ворагі, ужо каторы год, стаяць процiў сябе і гатовяцца да будучай, страшнай вайны...

Вайсковая партыя, якая цяпер кіруе палітыкай Японіі, мае такія мэты: 1) падгатоўка вайны процiў Саветаў і здабыцьця Сібіру; 2) „зарганізаваньне“ Кітаю і ўсяе Азіі пад клічам „Азія для азіятаў і 3) здабыцьцё выспаў Філіпінскіх, якія належаць да Злуч. Штатаў і Аўстраліі, якая належыць да Англіі. Гэтая трэцяя мэта можа давясьці да канфлікту з Амэрыкай і Англіяй і дзеля гэтага Японія пакуль што імкнецца да першых двух мэтаў.

Ідучы да здабыцьця Сібіру, Японія хоча ўзалежніць ад сябе вялізарны Кітай, які мае каля 450 мільёнаў жыхарства. Ня могучы яго ўзалежніць цалком і адразу, Японія робіць гэта часткамі і паволі, сыстэматычна ідучы да сваей мэты. Але ня сьпяць і камуністы, якія такжа хочуць „арганізаваць“ Кітай і дзеля гэтага ў Кітаі адбываюцца такія рэчы, як арыштаваньне галавы дзяржавы, Чанг-Кай-Шэка, падуладным, збунтаваным ген., Чанг-Суэ-Лянгам... Хто прычыніўся да выступленьня Чанг Суэ-Лянга, Японія ці Саветы, згадаць трудна, бо ягонае выступленьне было карысным як для аднэй так і для другой дзяржавы... Першым варункам, які паставіў Чанг-Суэ-Лянг, было актыўнае выступленьне процiў Японіі, дык здагадваюцца, што за плячамі Чанг-Суэ-Лянга стаяць Саветы. Але з другога боку ёсьць падазрэньні, што да выступленьня Чанг-Суэ-Лянга прачыніліся японскія вайсковыя кругі, для каторых карысна, каб у Кітаі выклікаць закалот, зрабіць націск на Чанг-Кай-Шэка і разам з гэтым паказаць свайму народу, што патрэбны далейшыя ахвяры... Цяпер Чанг-Кай-Шэк ужо выпушчаны, над Чанг-Суэ-Лянгам адбыўся суд, які яго асудзіў на 10 гадоў турмы —але скора для яго мае быць амнэстыя... З усяго гэтага відаць, што справа няясная... Кітайскія адносіны трудна зразумець!

*Гішпанскія падзеі*

У Гішпаніі баі прыціхлі. Наступленьне паўстанцаў, заламаўшыся ў Мадрыце, затрымалася. Адна і другая старана акапалася і вядзе пазыцыйную вайну, гатовячыся да наступнага бою. Тымчасам плывуць і едуць ахвотнікі з усіх краін на падмогу аднэй і другой старане. Саветы і Францыя памагаюць „людоваму“ фронту, а Нямеччына і Італія — паўстанцам. Апошнім часам разышліся весткі, што Італія, пасьля заключэньня пакту з Англіяй, выходзіць з гішпанскай авантуры, але тэлеграф прынёс навейшыя весткі, што 10 тыс. італьянскага войска высадзілася ў Гішпаніі на помач паўстанцам... Англія ўзяла пад сваю „апеку“ Баскію, Францыя — Каталёнію, а якія часткі Гішпаніі возьмуць Нямеччына і Італія — пакажа будучыня. У такой атмасфэры ўсе заклікі да неінтэрвэнцыі і нэўтральнасьці ёсьць пустым гукам. Няма надзеі, каб у Гішпаніі вайна скора скончылася; усё прамаўляе за тым, што вайна працягнецца, уцягваючы штораз новыя сілы.

Апошнім часам агульную трывогу выклікала задзержываньне чырвонымі гішпанскімі караблямі нямецкіх караблёў, а нямецкімі караблямі — гішпанскіх. Нямецкі бранявы крэйсар „Кенігсбэрг“ нават абстраляў аднаго гішп. карабля. З усяго відаць, што падзеі каля Гішпаніі развіваюцца. Кажуць што Англія, дзелячыся на падставе апошняга пакту ўплывамі на Міжземным моры з Італіяй, падзялілася з гэтай апошняй і ўплывамі ў Гішпаніі... Гэта азначае ціхую згоду Англіі на помач паўстанцам...

**Рэдакцыйная калегія:**

*інж. Л. Дубейкаўскі,*

*мгр. В. Гадлеўскі,*

*мгр. М. Шкелёнак,*

*студ. В. Папуцэвіч.*

*Наступны нумар „БЕЛАРУСКАГА ФРОНТУ“ выйдзе 5-га лютага.*

---

неньняў Беларускага народу, а гэтым самым і студэнцтва, быў наладжаны ў БСС цыкль рэфэратаў і дыскусіяў. Дня 21. XI. студ. Сарока чытаў аб ідэолёгіі беларускага Студэнцтва, а 24. XI. адбылася дыскусія над ідэолёгіяй студэнцкага часапісу п. заг. „25 Сакавіка“. У сваім рэфэраце студ. Сарока выразна паставіў ідэю беларускае студэнцкае моладзі і народу: адраджэньне Беларусі сваімі беларускімі сіламі, прыгэтым скрытыкаваў рачова ўсе чужацкія ар'ентацыі, як нам варожыя і шкодныя.

Студ. Папуцэвіч у дыскусіі над часапісам „25 Сакавіка“, навязваючы да рэфэрату студ. Сарокі, прадставіў як ідэолёгію студэнцтва і народу ідэалістычны сьветапагляд, які зможа адзін даць рашучы адпор варожаму інтэрнацыяналу. Амаль усе студэнты прамаўлялі, што мэтай, ідэяй і ідэолёгіяй беларускае інтэлігенцыі і народу павінна быць дабро Нацыі і поўная сацыяльная справядлівасьць. Гэтай-жа справе будуць прысьвечаны рэфэраты і дыскусіі ў найбліжэйшай будучыні.

Але ня толькі нацыянальны дух вычуваецца ў афіцыяльных рэфэратах і дыскусіях. Студэнцтва стараецца пазнаць гісторыю нашага Народу і яго палажэньне ў сучаснасьці. У Т-ве Беларусаведы пры УСБ адбываюцца лекцыі і гутаркі ў кожную нядзелю на тэмы нашай мінуўшчыны, літэратуры і культуры. Ня гледзячы на натугі „людовага“ фронту, усюды вычуваецца патрыётычная беларуская атмасфэра.

У такой-жа атмасфэры БСС 14. XI. адсьвяткаваў 16-я угодкі Слуцкага паўстаньня. Студэнцкая моладзь сабралася ў целай сваёй масе а 7 гадзіне на скромную акадэмію, каб аддаць чэсьць беларускім героям Случчакам, якія ў абароне свае Бацькаўшчыны жыцьцё аддалі на яе аўтар.

На заклік старшыні БСС прысутныя праз паўстаньне і мінуту цішыні аддалі гонар Слуцкім барацьбітом. Аб прычынах паўстаньня, яго падзеях і сумным канцы, а такжа аб водгуках паўстаньня ў беларускім грамадзянстве, гаварыў інж. С. Бусел, дзейны ўчасьнік Слуцкага паўстаньня.

Уканцы, дзеля паўнаты інфармацыяў аб дзейнасьці БСС, успамянуць такжа трэба і аб таварыскім жыцьці нашых студэнтаў. БСС творыць цесна зьвязаную беларускую сям'ю, ў якой кожны сябра і кожная сяброўка чуецца як у сябе ў хаце. Супольная родная мова, супольныя беларускія імкненьні і крывіцкая кроў—вось магутная сувязь цеснага сужыцьця. Ад часу да часу ладзяцца вечарыны з народнымі скокамі (24. X. і 28. XI.) і тут перадусім красуе народны беларускі танец—Лявоніха.

Прывязаннасьць да народных традыцыяў і звычаяў была прычынаю саргaнізаваньня ў БСС 28 лістапада вечарыны пад наз. „Міколкі-Андрэйкі“. Народныя прыпеўкі, гумар і палітычная сатыра, варожбы і народныя скокі — вось зьмест цэлае імпрэзы.

І так — з гэтых дадзеных у агульным нарысе ясна прадстаўляецца мэта, ідэя і разьмеры дзейнасьці БСС. Трэба цешыцца, што студэнцкая моладзь зыходзіць на правільны беларускі шлях і астаецца жадаць, каб на гэтым шляху вытрывала.

*В. П.*

*БЕЛАРУСЫ, калі хочаце ўсебакова пазнаць беларускую і сусьветную палітыку, выпісвайце „Беларускі Фронт“! Присылайце складкі і ахвяры! Пашырайце газэту пасярод сваіх знаёмых!*

Рэдактар-Выдавец: В. ПАПУЦЭВІЧ.

Друк. Я. Левіна Вільня, Нямецкая вул. 22. Тэл. 21-14.